

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 1 (студзень), 2013

# Мяжа



**На “Дыванах Брэста” работніцы зладзілі мітынг**

(старонка 8)

# ЗЬМЕСТ

## Брэст: чыноўніца гарвыканкаму выйграла справу супраць лідэра гурта “Дай Дарогу!”

Суд Ленінскага раёна Брэста абвясціў рашэнне ў справе абразы гонару і годнасці начальніка аддзела па справах моладзі Брэсцкага гарвыканкама Таццяны Барышчык.

Падставай для судовага разбіральніцтва была заявы Барышчык з нагоды змешчанага ў Інтэрнэце (у сацыяльнай сетцы “Вконтакте”) паведамлення музыканта Юрыя Стыльскага, дзе ён пералічыў чыноўнікаў, якія, на яго думку, спрычыніліся да забароны канцэрта гурта “Дай Дарогу!”. Сярод узгаданых асобаў, была і Таццяна Барышчык, якая палічыла, што ў каментарах да гэтага паведамлення былі змешчаныя абразлівыя выразы ў я е адрас. Хаця каментары не належылі менавіта Стыльскаму, суд прызнаў яго вінаватым і пакараў штрафам памерам у 10 базавых велічынь (1 мільён беларускіх рублёў).

*spring96.org/be/news/60297*

## Павіншуйце Аўтуховіча з днём народзінаў: 7 студзеня палітвязню спаўняецца 50 гадоў

Мікалай Аўтуховіч - ветэран афганскай кампаніі, паспяховы прадпрымальнік і дэмакратычны актывіст з Ваўкавыска, які за сваю грамадскую дзейнасць і барацьбу з карупцыяй знаходзіцца зараз за кратамі.

Мікалай Аўтуховіч нарадзіўся 7 студзеня 1963 г. у Ваўкавыску. З 1981 года служыў у арміі ў Саратаўскай вобласці Расіі кіроўцам у ракетных войсках стратэгічнага прызначэння. Пазней скончыў школу прапаршчыкаў, папрасіўся служыць у Афганістан. За ахову моста пад Кандагарам і ўдзел у іншых аперацыях узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, двума медалямі - «За адвагу» і «За баявыя заслугі». Звольніўся з войска ў 1991 годзе ў Ваўкавыску старшым прапаршчыкам, стаў займацца бізнэсам.

Упершыню Мікалай Аўтуховіч быў арыштаваны ў кастрычніку 2005 года.

Абвінаваціўшы ў нявыплаце падаткаў, яго асудзілі на тры з паловай гады. Ён быў адным з шасці палітзняволеных, вызваленых у выніку жорсткіх санкцый ЗША і ЕС

Другі раз Мікалай Аўтуховіч быў арыштаваны 8 лютага 2009 г., асуджаны 6 траўня 2010 г. Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь па ч. 3 арт. 295 КК (незаконныя дзеянні ў адносінах да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў) да 5 гадоў і 2 месяцаў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму.

Рашэннем суда ад 17 студзеня 2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №5 у Івацэвічах ў турму №1 г.Гродна.

Напісаць ліст Мікалаю Мікалаевічу Аўтуховічу можна па адрасе: 230023, вуліца Кірава 1, Гродна, турма № 1, ці даць тэлеграму, патэлефанаваўшы з гарадскога тэлефона на №166.

*spring96.org/be/news/60348*

## Рэйтынг Лукашэнкі замёр

Зарэгістраваны ў Літве Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў (НІСЭПД) апублікаваў вынікі чарговага нацыянальнага апытаньня, праведзенага ў сьнежні.



Згодна зь ім, 39,1 працэнта апытаных заявілі, што давяраюць кіраўніку краіны Аляксандру Лукашэнку. Узровень недаверу склаў




49,1 працэнта.

Сацыёлягі адзначаюць, што рэйтынг кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі фактычна «замёр», нягледзячы на дасягненьне да канца году абяцанага 500-даляравага заробку. Паводле гэтага апытаньня, сёньня за Аляксандра Лукашэнку прагаласавалі б 31,5 працэнта, што фактычна не зьмянілася ў параўнаньні з апошнім апытаньнем у верасьні-кастрычніку (тады было 31,6%). Бальшыня апытаных не давяраюць Лукашэнку, адзначае незалежны беларускі сацыёляг Аляксандар Сасноў:

Аляксандар Сасноў «Цяжка будзе ўладзе падтрымліваць рэйтынг

вось такога адзінага палітыка, як Лукашэнка. Грошай няма,таму ніякіх паляпшэньняў ня бачна. Народ гэта таксама разумее, і вось таму рэйтынг застаецца ўжо каторы квартал амаль аднолькавы».

Паводле апытаньня, рэйтынгі лідэраў апазыцыі, як і раней, вагаюцца ад 4,8% у Саньнікава і 4,6% у Някляева да 1,1% у Статкевіча і 0,9% у Лябедзькі. Аляксандар Сасноў так патлумачыў гэтыя лічбы:

«Тут, на мой погляд, нічога не мяняецца, бо апазыцыя ніякіх такіх сур’ёзных дзеяньняў ня робіць. Дый ня можа, бо ўлады




зрабілі ўсё з апазыцыяй, каб у досьведзе насельніцтва яна адсутнічала. Ёй перашкаджаюць ва ўсім. Таму я ня думаю, што яе рэйтынг можа падняцца, нават калі жыцьцёвы ўзровень стане яшчэ горшым».

Што да сацыяльна-эканамічнага становішча ў краіне, то бальшыня апытаных, амаль траціна, лічаць, што стане яшчэ горш. А ў тое, што палепшыцца, вераць меней за кожнага чацьвёртага. Галоўным віноўнікам цяперашняга крызісу беларусы называюць прэзыдэнта (41%) і ўрад (39,1%).

Такая сытуацыя назіраецца ўжо даўно, адзначае сацыёляг Сасноў.

«Паколькі ў нас у краіне адзіны палітык, які заўсёды на сябе цягнуў коўдру, то гэта ён усё робіць. Таму і адказвае ён. А што да

ўраду, то ўрад не ўспрымаецца нейкай асобнай адзінкай, а як дадатак да прэзыдэнта. І таму яго рэйтынг заўсёды амаль такі ж, як і ў Лукашэнкі, —

нэгатыўны. У Беларусі ўсім кіруе прэзыдэнт, а ў яго ёсьць канцылярыя, якая завецца «ўрад».

Як адзначаюць дасьледчыкі НІСЭПД, працягваецца геапалітычны дрэйф беларусаў у бок Захаду. На пытаньне пра выбар паміж аб’яднаньнем з Расеяй і ўступленьнем у Эўразьвяз погляды рэспандэнтаў разьмеркаваліся такім чынам: 37,7% — «за Расею», 43,4% — «за Эўразьвяз».

Тут вялікіх зрухаў няма, адзначае Аляксандар Сасноў:

«Дадзеныя кажуць пра тое, што стаўленьне да аб’яднаньня з Расеяй пагаршаецца, але паступова і зусім нязначна. А кірунак нейкай інтэграцыі ў Эўропу становіцца больш прывабным для беларусаў. Але, зноў-такі, зусім трошкі. То бок ніякіх такіх істотных зьменаў ня бачна».

www.svaboda.org/content/article/24813941.html

## Брэст: суд палічыў правамоцным атрыманне заробку ў канверце

Суд Маскоўскага раёна Брэста не задаволіў іск былога работніка ААТ “Талант” Аляксандра Сахарука, які прасіў суд прызнаць наяўнасць заробкаў у канвертах і даплаціць за адпачынак з гэтай сумы. Але, па словах прававога інспектара прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці па Брэсцкай вобласці, праваабаронцы Ўладзіміра Малея, суддзя Раман Карабан палічыў, што недастаткова фактаў, якія б пацвярджалі выплату заробкаў у канвертах:

- Ніхто з рабочых “Таланта”, акрамя Сахарука, не падцвердзіў атрыманне заробкаў у канверце. Аднак упраўленне дэпартамента фінансавых расследаваняў факт заробку Сахарука ў канверце ўстанавіла, былі з гэтай сумы вылічаны падаткі, пакарана кіраўніцтва “Таланта”. Тым не менш гэтыя факты не пераканалі суддзю, які палічыў яшчэ, што і тэрмін іскавой заявы прайшоў.

Хаця была пісьмовая просьба Сахарука наконт узнаўлення тэрміну, які залежаў

ад заключэння ўпраўлення дэпартамента фінансавых расследаванняў.

Уладзімір Малей лічыць, што суддзя сваім рашэннем патурае тым, хто практыкуе заробак у канверце. Яго рашэнне супярэчыць дзяржаўным інтарэсам. Паколькі ад заробку ў канверце страчвае не толькі работнік, але і дзяржава, якая не даатрымлівае грошы ў бюджэт і на сацыяльную абарону насельніцтва.

Рашэнне будзе абскарджана ў абласным судзе.

*spring96.org/be/news/60342*

## На “Дыванах Брэста” работніцы зладзілі мітынг

Нечаканай акцыяй прадзільшчыцы сустрэлі мінскае начальства.



У фае галоўнай прахадной некалькі дзясяткаў жанчын гучна выказвалі незадаволенасць 9-месячным крызісам на прадпрыемстве. Адна з іх, ткачыха Лілія, патлумачыла Еўрарадыё:

Лілія: "Хочам працаваць, каб кожны дзень была праца, і каб добра аплочвалася. Наша праца цяжкая, шум, на нагах, а мы




капейкі атрымліваем. 370 тысяч атрымала жанчына!

Мае дзіцця. У Галіны Главінскай, яна мая памочніца, чацвёрты разрад. У мяне — шосты. Я атрымала 470. За кватэру заплаціла 399 тысяч, і колькі мне засталося? 71 тысяча? Усё!!! Што далей? Як далей? Ну, як гэта так?"

Работніцы паказвалі свае разліковыя лісткі новаму старшыні канцэрна “Беллегпрам” Міхаілу Сучкову і пераконвалі, што прызначаны ўвесну дырэктар не зможа вывесці прадпрыемства з крызісу, бо не мае профільнай адукацыі і праводзіць няправільную палітыку. Леаніду Шоўкаваму яны закідалі недачасны рамонт адміністрацыйнага корпуса, незбалансаванае ўтрыманне на

поўных стаўках каля трохсот інжынерна-тэхнічных работнікаў. А гэта столькі ж, як і рабочых, пры тым што прадпрыемства прастойвае ўжо дзевяць месяцаў.

Жанчыны дабіваліся, каб іх прапусцілі ў цэх, таму што сёння рабочы дзень. Там яны спадзяваліся дачакацца першага віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашку, які абʼязджае прадпрыемствы Брэстчыны. Ткачыхі хацелі выказаць яму свае прэтэнзіі.

*euroradio.fm/report/na-dyvanah-bresta-rabotnicy-zladzili-mityng-fota-127301*

## Справу брэсцкага апазіцыянера трэці раз пакінулі без разгляду

Трэцяга студзеня на паседжанне не прыйшоў пракурор. Яго пакараюць “за няяўку без паважнай прычыны”.

Гэта прылюдна паабяцаў суддзя Брэсцкага раённага суда Мікалай Сенька, які разглядае справу Віталя Каўша. Наступнае паседжанне прызначанае на 11 гадзін 15 студзеня.

Нагадаем, перад Новым годам Віталь Коўш падаў хадайніцтва аб змене меры стрымання і вызваленні з-пад варты. Ён спасылаўся



на тое, што мае ўтрыманні дваіх малых дзяцей і справа цалкам даследаваная, а следства скончанае. Менавіта праз нязгоду пракурора суддзя перад Новым годам браў час на роздум. Сёння хадайніцтва было адхіленае.

Адвакат брэсцкага апазіцыянера Павел Алесік кажа, што “з пункту гледжання права ў суддзі не было іншага выйсця, як адкласці разгляд справы па сутнасці”.

Нагадаем, 28-гадовага Віталя Каўша вінавацяць у тым, што нібыта ён у траўні дапамог васьмярым індусам у іх спробе прайсці над беларуска-польскай мяжой па канаце. Апазіцыянера затрымалі 1 верасня. Два затрыманыя індусы пасля дэпартацыі далі на камеру паказанні, што іх “змусілі агаварыць невядомых людзей”. Ролік быў размешчаны ў сеціве.

*euroradio.fm/report/spravu-bresckaga-apazicyyanera-treci-raz-pakinuli-bez-razglyadu-127081*

## Працаўнікі "Граніта" змагаюцца за свае правы

Працягваецца ціск на сяброў незалежнага прафсаюза прадпрыемства “Граніт” у Мікашэвічах.

Гэтым разам кіраўніцтва прадпрыемства шукае прычыны, каб звольніць скарбніка незалежнага прафсаюза Анатоля Літвінку, расказвае старшыня незалежнага прафсаюза на прадпрыемстве "Граніт" Алег Стахаевіч, якога звольнілі раней:

“Ужо на яго напісана чатыры загады пра парушэнне аховы працы, зразумела, што гэтыя парушэнні надуманыя. У Анатоля некалькі паверхаў абсталявання, якія ён мусіць абыходзіць і пільнаваць. Калі ён праверыць першы паверх, то ідзе на наступныя, а на першым ужо хтосьці штосьці адкруціць. Гэта маральны ціск, які разлічаны на тое, каб актывіст прафсаюза сам звольніўся, бо кожны дзень працы пачынаецца з таго, што пішаш тлумачальныя запіскі за тое, да чаго не маеш ніякага дачынення”.

Па словах Алега Стахаевіча праблемы на працы цяпер не толькі ў скарбніка прафсаюза, але і ў іншага яго ўдзельніка Леаніда Дубаносава. Начальнік кар’ера, у якім працуе Леанід, паставіў яго перад выбарам, або забраць з бухгалтэрыі дакументы аб пераліку

ўзносаў на незалежны прафсаюз, або ён будзе звольнены.

Па словах Алега Стахаевіча, калі на пачатку года ў прафсаюзе было каля 300 чалавек, то цяпер, з-за праследу і звальненняў актывістаў, яго сяброў можна пералічыць на пальцах. Аднак, як лічыць праваабаронца і юрыст незалежнага прафсаюзу РЭП Уладзімір Малей, нават у такіх жорсткіх умовах трэба працаваць:

“Я лічу, што галоўная мэта — гэта захаваць людзей, дапамагчы ім. Калі я сустракаўся з актывістамі незалежнага прафсаюза, мне гэтыя людзі вельмі спадабаліся: маладыя, сэнсоўныя, натхнёныя намаганнем палепшыць свае ўмовы працы, дамагчыся павелічэння заробкаў. Зразумела, кіраўніцтва прадпрыемства адразу прыняло меры, каб задушыць”.

Як адзначыў прафсаюзны лідар “Граніту” Алег Стахаевіч, жыхары Мікашэвічаў з цікавасцю ставяцца да таго, што адбываецца на прадпрыемстве. Калі незалежная газета “Інформ-прагулка” пісала пра актыўнасць рабочых “Граніта”, то наклад гэтай мясцовай газеты павялічыўся ў некалькі разоў.

Спецыяльна для праваабарончай праграмы "Кардыяграма"

*http://euroradio.fm/report/lyudzi-z-granitu-zmagayucca-za-svae-pracounyya-pravy-127249*

## Брэст: суддзя абяцае пакараць пракурора, які не з’явіўся на суд над грамадскім актывістам

Суддзя Брэсцкага раённага суда Мікалай Сянько 3 студзеня не задаволіў хадайніцтва адваката Паўла Алесіка аб змене меры стрымання грамадскаму актывісту Віталю Каўшу (на фота) на падпіску аб нявыездзе, але адначасова не здолеў пачаць працэс, бо на паседжанне не з’явіўся пракурор.

Як абвесціў суддзя, прадстаўнік абвінавачвання не папярэдзіў пра сваю немагчымасць браць удзел у сённяшнім паседжанні, там будуць прынятыя захады, каб пакараць пракурора, які не з’явіўся ў суд “без паважнай прычыны”. Новае паседжанне ў гэтай справе прызначана на 15 студзеня.

Нагадаем, што 28-гадовага Віталя Каўша вінавацяць у тым, што ў траўні мінулага году ён нібыта спрыяў грамадзянам Індыі ў іхняй спробе незаконна перасячы беларуска-польскую мяжу з дапамогай

каната. 1 верасня праваахоўныя органы правялі адмысловую аперацыю па затрыманню Каўша вакол яго дома на вачах сям’і з ужываннем сілы.

Мінулай восенню ў Інтэрнэце быў змешчаны відэаролік, у якім дэпартаваныя з Беларусі індусы распавялі, што падчас знаходжання у ізалятары іх прымусіл агаварыць незнаёмых людзей.

Віталь Коўш раней займаўся грамадскай дзейнасцю, быў сябрам Партыі БНФ і назіральнікам падчас некалькіх выбарчых кампаній у Беларусі.

*spring96.org/be/news/60330*

## Прадпрыемствы банкрутуюць для продажу за бясцэнак

Сталі вядомыя новыя падрабязнасці сустрэчы работніц «Дываноў Брэста» з першым віцэ-прэм'ерам.

З-за прастою на прадпрыемстве яны вымушаныя існаваць на 300 тысяч рублёў у месяц. «Мы ямо шэры хлеб - з супам і на дэсерт. Здаем кроў, каб выжыць. Нашы дзеці засталіся без падарункаў на Новы год», - распавялі працаўніцы.

Па словах рэзчыка матэрыялавырабаў аздобнага цэха ААТ «Дываны Брэста» Галіны Марчук, з красавіка 2012 года яна і яе калегі працуюць некалькі дзён у месяц, і плацяць ім каля 300 тысяч рублёў. Галіна працуе на фабрыцы з 1986 года, але падобнага крызісу ўспомніць не можа, піша «Салідарнасць».

«Летам ездзілі ў калгасы падпрацаваць, а цяпер зіма - як нам жыць?» - дзеліцца Галіна Марчук. - Мы пачулі, што павінен прыехаць Сямашка і вырашылі з ім сустрэцца.

Па словах Галіны, начальства «Дываноў Брэста» хавала візіт віцэ-прэм'ера ад работніц.

«Калі прыехаў Сямашка, на прадпрыемства нас не пусцілі. Але мы прарваліся! Я потым віцэ-прэм'еру сказала: «Што вы думалі, натоўп раз'юшаных баб з двума мужыкамі на прахадной не справіцца?». Бачылі б вы твар нашага дырэктара. Ён рукамі замахаў, думаў, што мы яго біць будзем. І я першае пытанне задаю:

«Як вам не сорамна? Не чакалі, што вы віцэ-прэм'ера таемна праведзяце».

Сямашка кажа: «Вы дырэктара павінны любіць». За што, пытаюся. За гэты металалом, які стаіць у цэхах? Палова лініі працуе, а астатняе - не», - распавядае яна.

Галіна прызнаецца, што для яе было шокам тое, што Сямашка, мабыць, не хацеў з імі сустракацца. «Мне гэта дырэктар пазней пацвердзіў, сказаўшы, што заказвае музыку той, хто плаціць. Гэта так сорамна для вялікага начальства баяцца сустрэцца з простымі людзьмі! Мы чакалі, што другі чалавек ва ўрадзе спытае нас: «Людзі, як вы жывяце?».

Замест гэтага першы віцэ-прэм'ер, як кажа Галіна, пачаў «закідваць лічбамі»:

«Маўляў, на тым заводзе яшчэ горш было, але цяпер там ужо добра. Лічбы-лічбы... Сямашка біў кулаком у стол і крычаў: «Я яшчэ не скончыў!». Пена з рота пырскае, не дае людзям слова сказаць.

Мая калега Ніна разліковыя яму паказала, пытаецца: «Як нам жыць за 300 тысяч?». Ён як шпурне на стол гэтыя разліковыя!

Мы спадзяваліся ўбачыць віцэ-прэм'ера, які людзей выслухае. А ён крычыць на нас. Я старалася перакрычаць яго і пару пытанняў папярок задаць. Ён мне рабіў заўвагу за заўвагай. У рэшце рэшт, сказаў: «Як з вамі муж размаўляе?». Моўчкі, кажу. Я хацела, каб ты мой боль даведаўся, а не лічбы даваў, што на гарызонце робіцца.

Ён кажа: «У вас лепш чым на «Камволі». Ім далі 10 мільярдаў, а вам 83». Дзе яны, гэтыя мільярды? Мы іх не бачым.

Нашаму прадпрыемству патрэбны кіраўнік, які выведзе яго з крызісу, такі, як наш мінулы дырэктар Матачкін, з двума вышэйшымі адукацыямі. Яго выжылі з фабрыкі, хоць пры ім мы атрымлівалі мільён трыста тысяч рублёў.

У нас зараз на аднаго работніка па тры ітээраўца. І яны ходзяць на працу кожны дзень, а мы сядзім дома. Мы кроў здаем, каб неяк выжыць. Купляем шэры хлеб - да супу і на дэсерт.»

«Мой малодшы сын прасіў падарунак пад ёлку, а я не змагла яму нічога купіць! - плача Галіна. - Трэба Шаўковага (дырэктар ААТ

«Дываны Брэста») пасадзіць на нашу зарплату. Можа, галодны ён прыдумае, як прадпрыемства з крызісу вывесці».

Як распавяла Галіна Марчук, сустрэча скончылася абяцаннямі.

«Сказалі, што ткачы будуць атрымліваць 3,5 мільёны. Смешна. Дзе яны іх возьмуць? Ткачыха задае пытанне: «Як мы можам атрымаць тры мільёны, калі мы нават на працу не ходзім?». Сямашка як грукне кулаком па стале: «Так я сказаў! Я ў сакавіку да вас яшчэ прыеду. І калі не выканае абяцанне дырэктар, то я яго выганю». У мяне такое ўражанне, што нас хочуць цалкам збанкрутаваць і прадаць нейкаму дзядзьку за бутэльку гарэлкі», - упэўненая яна.

*charter97.org/be/news/2013/1/9/63718/*

## Івацэвіцкі раён: умовы працы на сельгаспрадпрыемствах -- невыносныя

Рэспубліканскае ўнітарнае сельгаспрадпрыемства “Эксперыментальная база “Майск” Івацэвіцкага раёну ўтварылася з трох калгасаў, але моцы не набыло, а наадварот страціла. Работнікі абураюцца, што на фермах кароў падсцілаць няма чым, яны ляжаць на голым цэменце, кормяць іх гнілымі кармамі. Карова, якая расцялілася, дае за дзень усяго тры літры малака, а патрэбна, каб давала 20 і болей, кажуць даяркі. Умовы для людзей, што працуюць на ферме, не лепшыя: даяркі слізгаюцца па тым жа мокрым голым цэменце, памыцца няма дзе, нават пасядзець няма на чым. У пасёлку Майск няма ні дзіцячага садка, ні школы, ні лазні, таму моладзь там не затрымліваецца.

Эксперыментальная бульба змерзла, ляжыць раскрытая ля фермы, выкарыстоўваецца як корм каровам.

Па словах работнікаў фермы, начальства яны амаль не бачаць. Бачаць толькі, як старшыня іх эксперыментальнай базы за 2 гады кіравання будуе ўжо другі катэдж. А работнікі атрымліваюць, працуючы без выходных, 2-3 мільёны, і тыя выплочваюць у апошні дзень месяца, калі трэба плаціць да 25-га камунальныя, крэдыты.

- Потым пеню трэба плаціць,- кажуць людзі, - мы тут ніякія не

гаспадары. А вось адказнасць за ўсё на нас. На бульбе ўжо эксперымент зрабілі, вось мерзлая і гнілая ляжыць у буртах, а цяпер над намі праводзяць эксперымент.

*spring96.org/be/news/60609*

## Алег Стахаевіч: Суполка незалежнага прафсаюзу на "Граніце" па-ранейшаму існуе

Нягледзячы на штодзённы сістэматычны ціск, пагрозы і звальненні, суполка незалежнага прафсаюзу на прадпрыемстве па здабычы каменю "Граніт" у Мікашэвічах працягвае сваю дзейнасць. Актывісты суполкі адзначаюць, што кіраўніцтва "Граніту" намагалася зрабіць усё, каб з новага года незалежны прафсаюз застаўся ў мінулым.

Вынікі ціску не прайшлі бясследна. Шмат людзей прыпынілі сяброўства ў прафсаюзе, але гэта не расчароўвае кіраўніцтва суполкі, бо дзякуючы гэтаму засталіся адданыя справе людзі.

Старшыня "гранітаўскага" незалежнага прафсаюзу Алег Стахаевіч кажа, што знайшліся верныя сябры, з якімі будзе працягнутая дзейнасць:

- Хочацца выказаць вялікую падзяку кіраўніцтву "Граніта", якое зрабіла мяне значна больш моцным і пазітыўным, чым я быў раней. Дзякуючы ім ў мяне з'явіліся новыя знаёмыя. Калі ёсць галава на плячах, то заўжды знойдзецца магчымасць зарабіць сабе на жыццё. Бо 21 стагоддзе нясе велікія магчымасці ў справе заробкаў на жыццё.

На сённяшні дзень працягваецца ціск на Анатоля Літвінку і Леаніда Дубаносава, якія пералічваць унёскі ў незалежны прафсаюз праз бухгалтэрыю прадпрыемства. Начальнікі абяцаюць, што ў хуткім часе з імі разбяруцца.

*racyja.eu/index.php?id=105&zoom=8814*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»